№ 11 (153). Rok XI. „SZLACH MOŁADZI“ Wilno, 15.VI.1939.

# ШЛЯХ МОЛАДЗІ
# ŠLACH MOŁADZI

ІЛЮСТРАВАНЫ ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ

№ 11 (153). Вільня, 15 Чэрвеня 1939 г. Год XI.

## Чаму гаспадарчае палажэньне ў нас цяжкое

Што цяжка ў нас жывецца, аб гэтым не патрабуем многа гаварыць, бо ўсюды чуем нараканьні й гэта справа агульнаведамая. Але чаму іменна цяжкое гаспадарчае палажэньне ў нас, над гэтым мы не заўсёды затрымліваліся, тым больш, што «прыяцелі» нашы прычыну гэтага заўсёды знаходзілі ў беднасьці нашага краю. Аднак байка аб беднасьці перастае быць актуальнай. Нават б. польскі прэм'ер і маршалак Сэнату А. Прыстар у сваей прамове („Słowo“ 11.VI.39) гаворачы, што Усходнія Землі Рэчыпаспалітай пад узглядам матарыяльным не дацягваюць да сярэдняе меры, зазначае, што край гэты маеаграмадныя лясы з рэдкай на сьвеце зьвярынай, рыбныя вазёры й разьліўныя рэкі, ураджайную глебу, расьлінныя сырцы й скрытыя ў зямлі багацтвы натуральныя, прыцягваючыя краявіды, каторыя зьяўляюцца разрыўкай нават для заграпічнікаў. Словы п. А. Прыстара пацьвярджаюць фактычна ўсё тое, што мы пісалі ў апошніх нумарох «Шляху Мол.» аб багацьцях нашага краю й яго самавыстарчальнасьці.

Дзе-ж тады прычыны зла?— О, іх ня лёгка пабачыць! Усё фактычна скрыта. І калі сяньня мы кажам, што землі нашыя самавыстарчальныя, дык можа знайсьціся такі спрыцяк, каторы скажа, што гэта «няпраўда», а як «доказ» можа паказваць цыфры, што г. зв. Усходнія Землі менш плацяць падаткаў скарбовым урадам, чымся цэнтральныя, ды што ўрад на ўтрыманьне адміністрацыі й іншых дзяржаўных органаў, у каторых, трэба ведаць, часта бывае многа бюрократыі, выдае вялікія сумы. Ясна, такая гутарка — гэта чысьцейшая дэмагогія, бо падаткі плацяцца ня толькі безпасярэднія, але й пасярэднія, — гэтыя купляючы соль, цукар, нафту, гарэлку, серчыкі й інш. зманапалізаваныя тавары, або ад каторых падатак бярэцца ў фабрыках, капальнях, і аб чым ня кожны нават грамадзянін ведае; колькасьць такога пасярэдняга падатку з нашага краю вельмі цяжка аблічыць. Такім чынам, усе гэныя пасярэднія падаткі мы плацім, сьледу іх на вонкі ня бачым, а зарабляюць на іх землі цэнтральнае й заходняе Рэчыпаспалітае і іх — гэтыя землі — хваляць, а землі ўсходнія ганяць. Ды ня толькі купляючы соль, газу й іншыя пералічаныя вышэй тавары плацім падаткі й узбагачваем цэнтральныя й заходнія землі Рэчыпаспалітай. Робім гэта купляючы розную крамніну, а так-жа й тады, калі бяруць ад нас сырцы, вязуць іх у цэнтр Рэчыпаспалітай, ператвараюць іх там і пасьля дастаўляюць нам гатовым таварам. Тады яшчэ даходзіць на нашу некарысьць і тое, што работнікі, фабрыкі з цэнтру дзяржавы маюць больш работы, а ў нас разьвіваецца большае безработніцтва і ўстрымліваецца разьвіцьцё промыслу. Так напрыклад: вывозіцца ад нас у цэнтр Рэчыпаспалітай жыта, а прывозіцца мука, крупы, вотрубы; вывозіцца ячмень, бульбу, а прывозіцца піва, сьпірт; вывозяць фрукты, ягады, а прывозяць насеньне, кветкі, садзонкі; вывозяць, хоць у невялікай колькасьці, цукровыя буракі, а прывозіцца цукар; вывозяць рыбу, а дастаўляюць кансэрвы; вывозяць дрэва, анучы, а прывозяць паперу, цэлюлёзу і г. д. Перароблка гэных сырцоў магла-б адбывацца на месцы. Мог-бы больш разьвівацца промысел тэкстыльны, напр. Беластоцкі, каторы заспакоіў-бы патрэбы нашага краю. Карыстаў-бы з гэтага мясцовы селянін, работнік, разьвіўся-б мясцовы промысел, гандаль, і край паступова багацеў-бы, палажэньне папраўлялася-б.

Для паправы эканамічнага палажэньня, асабліва палажэньня вёскі, патрэбна яшчэ бязумоўна шырокая зямельная рэформа, а так-жа агульная й фахова-земляробская асьвета, дзеля разьвіцьця якое надта мала што робіцца. Трэба так-жа большае прапаганды нашых тавараў і вывазу іх заграніцу. Урэшце, — трэба, каб былі выкарыстываныя натуральныя багацьці нашага краю, нашае зямлі. У першую чаргу напр. трэба, каб пашыралася ў нас электрыфікацыя, для якое ёсьць вялікія дагоднасьці й якая спыніла-б запатрабаваньне нафты, а так-жа выкарыстываньне торфу, жалезнае руды, што ўзноў устрымала-б прывоз вуглю й жалеза.

Каб усе аднак гэтыя добрыя нашыя жаданьні спаўняліся, каб палажэньне эканамічнае нашага краю папраўлялася, патрэбная, як бачым, прад усім рашучая зьмена да гэтага краю гаспадарчае дзяржаўнае палітыкі, а так-жа, каб жыцьцём кіравалі ў нас мясцовыя людзі, поўныя любові да свайго краю й да нашага народу. Бо толькі той чалавек будзе належна працаваць і паляпшаць быт нашага краю, каторы з ім зродненны, каторы яго любіць, като-

## Украінскі часапіс аб Беларусах і М. Машары

Украінскі львоўскі часапіс „Новий Час“ у літаратурна-навуковым дадатку дн. 12.VI.39 году зьмясьціў артыкул Яро Домазара п. н. „Міхась Машара.“ У артыкуле гэтым між іншым чытаем: „Беларускі Народ тое, што іншыя народы здабывалі сярод спрыяючых абставінаў, паступова, з пакаленьня ў пакаленьне, мусіць здабываць, надрабляць у гарачкавым тэмпе. І ў кожнай галіне: палітычнага, грамадзкага, эканамічнага й літаратурна-мастацкага жыцьця відаць у Беларусаў вялікія поступы, што сьведчаць аб бязьмежным гоне да жыцьця паводле сваіх успадобаў. Найлепшым доказам гэтага ёсьць маладая беларуская літаратура.“ — Далей аўтар артыкулу разглядае й вельмі высока ацаняе творчасьць нашага паэта Міхася Машары

Сапраўды беларускі адраджэнскі рух, ня гледзячы на цяжкія абставіны, ідзе наперад і ніхто яго ня стрымае. Беларускі Народ мусіць адрадзіцца й здабыць сабе лепшую будучыню.

ры будзе глядзець на Беларуса, на беларускага селяніна, не папанску як на нешта ніжэйшае, цёмнае, што можна толькі выкарыстываць, але як на людзей, як на народ, каторы хоча жыць сваім жыцьцём культурна й на гэта мае ўсе правы. Я. Н.

* * *

*Там над Дзісенкай і Нёманам сінім*
*бельлю палошчуцца ў сонцы сады.*
*Гэта ня сон,... ня зіма,... і ня іній, —*
*гэта вясьняны уздым малады.*

*Гэй, песьняры, што замоўклі сягоньня?*
*Дзе цымбаліст, скрыпачы і дудар?*
*Час мо‘ на песьні настаў нявыгодны,*
*Нейкія сумы ляглі на наш твар.*

*Ходзіць вясна чараўніцай па полі,*
*зёрнамі выйшаў араты званіць,*
*сумы — сумлівы і гора і болі*
*будзем з трывогай у песьнях тапіць.*

М. Машара

### Струна

*Чаго ты плачыш пад рукою?*
*Струна! Скажы мне!—не таі...*
*Ці разстанёмся мы з табою?*
*Ці мала будзем у дваіх?*

*Ды я-ж крануў цябе, як даўна,*
*Той самы лад я націскаў...*
*Той сьпеў тварыў музыка слаўны..*
*Той сьпеў душу маю ласкаў.*

*Чаму, струна, дрыжыш плачліва?*
*Ці прачуваеш што? — Скажы!*
*Ці мо‘ і я так сіратліва*
*Калісь далёка буду жыць?*

*Ты боль, боль струн, сьцішысь, ня рвіся,*
*Ня рань мне сэрца, не калі!..*
*Я ўжо зрабіў із думак высеў*
*Па роднай, бацькаўскай зямлі.*

*Чаму-ж, струна, дрыжыш плачліва?*
*Дзе звон пявучых галасоў?*
*Ня плач! усходзе наша ніва,*
*Дасьць плод сваіх нам каласоў!..*

Новік Ганна

Anita

## Pavarot

„Šumiać kalosy, noč i zory,
Kudy žalezny koń śpiašyć?...
Mo‘ chutka rodnyja razory
Ubaču ja vačyma šyb.“
M. Tank

Zmučany doŭhaj padarožaj i niedaspanymi načami Aleś ucisnuŭsia ŭ kutok vahonu j pryžmuryŭšy vočy staraŭsia praspać apošniuju noč svajej padarožy. Ale ŭ hałavie niespakojna błutalisia dumki ab zaŭtrašnim dni, katory čakaŭ jaho na rodnaj ziamli, u rodnaj vioscy. Snavalisia jašče prad vačyma j uspaminy apošnich dzion u čužym, dalokim krai. Vočy Alesia poŭnyja byli jašče ciemry kapalni, u katoraj jon pracavaŭ apošnim časam. Čuŭ jon jašče j hłuchi stuk i zvon udaraŭ mołata. Daloka astaŭsia za im hety jaho „prastor śvietu,“ za jakim tak tužyŭ prad piaćmi hadami,i kudy vyhnała jaho niespakojnaja duša šukajučaja niečaha novaha, niaviemaha. Tady šmat maładych chłapcoŭ pajšło za chlebam u čužy kraj i jon z imi, choć jaho niva čakała silnych ruk. Pakinuŭ jon rodnuju nivu, staroha baćku j małodšaha brata. Jak-ža jon — Aleś — ciapier budzieješci hety chleb, ichnim potam i horam zdabyty?. .

Piać hadoŭ tamu nazad!.. Viesnavoju miesiačnaju nočkaj usie spali ćviordym snom zmučanych ludziej... Jon-ža, Aleś, stajačy pry vaknie, łaviŭ šalonuju dumku, katoraja blisnuła jamu niehdzie z milhajučaha śviatła z stancyi, skul za 3 hadziny mieŭ adyjšci ciahnik... Schiliŭsia, padkraŭšysia, nad hłybokaj skryniaj i poŭnym rucham znajšoŭ miašočak z hrašmi, praznačanymi na kuplu kania j płuha.

Dryžačymi ruchami ścisnuŭ miašočak i cicha, chutka ukinuŭšy patrebnyja ŭ čamadan rečy, ahlanuŭsia na śpiačych ćviordym snom... i vybieh z chaty.

U cišyni nočy pačuŭsia vostry, silny śvist ciahnika...Aleś bieh praz pole, łuhi, kusty, a za im hnalisia słovy staroha baćki.

— Ty j nia dumaj, synok, pakidać nas i ziamlu, z katoraj treba silnymi rukami vydzierci chleb... Najom čužych ruk ni zastupić ciabie, haspadara. Zołata nie nakapaješ u mieście, ni ŭzbahaciš siabie ani nas, bo nam usim najdaražejšym zołatam jość rodnaja pole, niva, zbožža, sonca...

Kožnaje słova baćki hnałasia za im, ale nie zmahło jaho zatrymać. I nie zmahło zatrymać jaho śviatło bliskučaje z chaty lubaje dziaŭčyny, jakaja jašče peŭnie prała tonki šery kužal...

Paśpieŭ jašče kupić bilet i uskočyć u vahon. Na raźvitańnie-ž u dušy sabie skazaŭ:— „Ja chutka viarnusia... vybačajcie...“

Pavarot adnak na rodnuju ziam

# Biełaruskaja Pilihrymka ŭ Kalvaryju

Za prykładam minułych hadoŭ, u pieršuju niadzielu m ca červienia (4.VI) adbyłasia sioleta z Vilni tradycyjnaja Biełaruskaja Pilihrymka ŭ Kalvaryju. Brali ŭ joj udzieł nia tolki vilenskija Biełarusy, ale tak-ža j z inšych kutkoŭ našaha Kraju. I tak byli biełaruskija pilihrymy z pavietaŭ: Vialejskaha, Vilenska-Trockaha, Śviancianskaha, Ašmianskaha, Vałožynskaha, Brasłaŭskaha, Lidzkaha, Vaŭkavyskaha, a navat i Biełastockaha. Mnohija prybyli piechatoju, mnoha maładych chłopcaŭ pryjechała na rovarach, a miascovyja biełaruskija dziejačy z-pad Žodzišak (Vialejski pav.) sarhanizavali całuju hrupu—100 asob, — katoraja pryjechała ciahnikom, atrymaŭšy na čyhuncy 50 pracentnuju źnižku ŭ płacie za prajezd.

Pilihrymka vyjšła z Vilni paśla nabaženstva ŭ Kaściele śv. Mikałaja, jakoje adpraviŭ ks. V. Šutovič i ŭ časie jakoha ŭsie prysutnyja śpiavali biel. relihijnyja pieśni. Kazańnie ŭ kaściele skazaŭ vielmi pryhoža ks. dr. St. Hlakoŭski. Vialiki pachod Biel. Pilihrymki praz miesta Vilniu byŭ vielmi strojny j dobra sarhanizavany. Načale za kryžam išli biel. ksiandzy: St. Hlakoŭski i V. Šutovič, za imi biel. dzietki, paśla biel. skaŭtki i skaŭty, katoryja byli praŭdzivaj azdobaj pilihrymki, i ŭreście biel. intelihienty, rabotniki j sialanie. Nia hledziačy na toje, što byli he ta ludzi z roznych staron, išli družna, uparadku, čaćviorkami, pakazvajučy hetym svaju hramadzkuju j kulturnuju vyrablenaść. Nad usimža pachodam razlahałasia mahutna melodyja biel. relihijnych pieśniaŭ.

U Kalvaryi da pilihrymki dałučyŭsia ks. V. Hadleŭski, katory razam z ks. ks. St. Hlakoŭskim i V. Šutovičam na źmienu havaryli biel. kazańni abvodziačy pilihrymaŭ pa darozie mukaŭ Chrystovych i padčyrkivajučy, što robiać heta ŭ češć 950 tych uhodkaŭ Chryścijanstva ŭ Biełarusi. U časie abchodu stacyjaŭ šyroka razlahalisia tak-ža biel. pieśni-molby ŭ češć Chrysta, vyjaŭlajučy žadańnie Biełaruskaha Narodu malicca ŭ rodnaj biełaruskaj movie j słuchać Božaha Słova nia tolki ŭ Biel. Pilihrymcy, ale i ŭva ŭsich śviatyniach našaha Kraju.

Mocna miašaŭ Pilihrymcy biezpraryŭny dóždž i choład, adnak jana stojka jšła, u praciahu 4 hadzin, až da kanca, da kaścioła na Kalvaryjskaj hary pa Bahasłavienstva, nia minajučy nivodnaje stacyi, čaho nie rabili inšyja pilihrymki. Daždžlivaje, chałodnaje nadvorje nadavała Biel. Pilihrymcy niejkaje symbaličnaje značeńnia, što zusim pravilna padčyrknuŭ adzin z kaznadziejaŭ, havoračy kazańnie ab mučeńniach Chrysta j žyćci Biełaruskaha Narodu.

Atrymaŭšy bahasłavienstva ŭ kalvaryjskim kaściele, zakončyli Biełarusy svaju Pilihrymku biel. relihijnym himnam „Boža, što kaliś narody...“ i razyjšlisia jznoŭ kožny da svaje pracy z mocnaj vieraj na lepšuju budučyniu!...

*jn*

## *Плачуць лозы*

*Плачуць лозы над вадою:*
*„Эх, жыцьцё, жыцьцё. —*
*Не разстанешся з бядою,*
*Не палепшыцца быцьцё!“*

*Вецер злосна шаматнууся,*
*Выдраў з сэрца жаль,*
*Над вадою скалыхнууся*
*Й недзе зьнік—прапаў між хваль.*

*Воды льюцца ды булькочуць*
*І плывуць сабе, плывуць,*
*Знаць і ведаць, ох, ня хочуць,*
*З чым яны у даль бягуць.*

*Плачуць лозы над вадою,*
*Сьлёзы льюцца ў даль...*
*А ў жыцьці цякуць струёю:*
*Гора—мукі, беды й жаль.*

*Ул. Гарт.*

*Парупцеся прысылаць заказ (5 зл.) на зборнік твораў беларускай паваеннай паэзіі (Анталёгію). Справа гэта пільная! Калі ня маеце ўсіх грашэй самі, то зьбярэце іх спосабам складчыны.*
*Заказы прысылайце на адрас рэдакцыі „Ш. М.“ і „Калосься“.*

---

lu,—što hod dalej,—zdavaŭsia jamu mieniej patrebnym, dalokim i ŭ baraćbie za štodzienny chleb zabyvaŭsia pra svoj kraj i siamju.

Usio niečaha šukaŭ, ale ŭsio jamu niečaha nie chapała. Až raz pryjšła takaja chvilina, kali zrazumieŭ siabie i kali pačuŭ, skul kliča jaho dola: — adżyła ŭ jahonym sercy tuha pa rodnym krai.

Doŭha błudziŭ pa ciesnych labiryntach kapalnianych z vačyma poŭnymi čornaha miełkaha pyłu. I kali vyjšaŭ na volny prastor, užo sił jamu ni stała nazad viarnucca.

Raz z pošty prynios Symon i kinuŭ jamu ŭ vočy biełymi kartami knižak i časapisaŭ, jakija pra havaryli jaho rodnym słovam:

„Śpiš niespakojna ty vioska maja,
sny kałasista uzornyja tkucca,
Tam dzie spatkałasia z niebam ziamla,
Tam — dzie biarozy biełyja hnucca.“

Viesnavaja pieśnia ziamli rodnaj zamuciła spakoj ciesnaha zadymlenaha pakoju rabotnikaŭ

„Budziem čornymi rukami snuć spakoj,
u zaru hadoŭ pyłajučych ŭhladacca.
Pajdziem praz chmary sinija z padniataj hałavoj
i skryšym ich ŭ mazolnych palcach!“—

Vincuś pierastaŭ na chvilinu čytać i zakuryŭ papiarosu. U sinim vobłaku dymu bliščeli jaho ciomnyja vočy, razharełyja vialikaj dumkaj.

— Kali my tudy vierniemsia?— pytaŭ Symon źviartajučysia da Vincusia.

— Čas užo, my tam patrebnyja ziamli, ale kab jašče hadok vytrymać, było-b dobra.

Alesia ab pavarot nia pytajuć. Bo ci-ž nia viedajuć, što ŭpadabała jaho pryhožaja dačka staršaha rabotnika, Palaka. Ci-ž nia viedajuć, što čuć nia kožny viečar Aleś słuchaje viasiołaha śmiechu hetaj dziaŭčyny j z baćkam jejnym abhavaryvaje intaresy ŭ dastatnym pamieškańni, pry bahatym stale, pry śklancy piva. Adnaho adnak nia viedali chłopcy, što jon, Aleś, nia maje užo sił viarnucca da taho čornaha śvietu, bo zatužyŭ pa rodnym prastory i błakicie. Nia viedali chłopcy, što adżyła ŭ im luboŭ rodnaj ziamli, jakaja klikała Alesia ŭ rodnuju viosku. I voś astaŭsia jašče Vincuś i Symon, a jon viartajecca.

Źviniać, śpiavajuć koły ciahnika melodyjnym hołasam Vincusia:

„Čas užo ziamlu apajasać zaroj,
razsiejać husta zory pa staroncy,
kab zaźvinieli našy nivy čornaju ralloj,
pad załatym naroham sonca.“

* * *

Ciopłym vietrykam zbudžany ustavaŭ viesnavy sonečny dzień. Praz hołyja jašče haliny drevaŭ snavaŭsia laniva dym z kominaŭ vioski j razchodziŭsia pach hatavanaje bulby. Vočy ludziej zahareliśia radaściaj, hledziačy na lohka zielaniejučyja łuhi j čornyja, vilhotnyja razory paloŭ. Adhetul pierapłyvaŭ u viosku pach syroj

## Źjezdy moładzi j narady kulturnych arhanizacyjaŭ u Ukraincaŭ i Litoŭcaŭ

— 4.VI. sioleta ŭ Lvovie adbyłosia vialikaje ŭračystaje śviata ukrainskaje moładzi, uzhadavanaje T-vam „Ridna škoła." — 8.VI. u Lvovie adbyŭsia ahulny hadavy schod ukrainskaha kulturnaha T-va „Prośvita." Na staršyniu hetaha T-va vybrany a. kanonik Juljan Dzeravič, bliski supracoŭnik Mitrapalita A. Šeptyckaha, jaki sioleta 18 h.m. śviatkuje 40-hodździe svajho jepiskapstva.

— Nadoviačy ŭ Vilni adbyŭsia ahulny hadavy źjezd litoŭskaha T-va „Kultura." — 11.VI. sioleta ŭ Vilni byŭ sarhanizavany vialiki źjezd litoŭskaje moładzi. Pry hetym adbyłasia supolnaja pilihrymka moładzi ŭ Kalvaryju, a paśla viečar u Lit. Himnazii im. Vitaŭta Vialikaha. Na viečary byŭ miž inšym litoŭski biskup Reinys, katory pryjechaŭ z Vilkavišak u Vilniu na karotkija adviedziny.

— Biełaruskaja ž moładź nia moža sarhanizavać svajho źjezdu j śviata, bo dasiul, na žal, nia maje svaje arhanizacyi. Usie-ž sproby ŭ hetym kirunku załomlivalisia dasiul, z pryčyny admovy administracyjnych uładaŭ začvierdzić statut arhanizacyi bieł. moładzi, abo navat zabarony adbyć arhanizacyjnyja schody.



Słaŭny francuski vučony L. Pasteur, katory adkryŭ leki suproć zarazy šalonaści

* * *

*Так нядаўна грымелі гарматы*
*Сярод родных, спакойных палёў.*
*Яшчэ мучыцца й сяньня араты*
*Там, дзе сьмерць піла чарамі кроў.*

*На крывавы банкет прыляталі*
*Ў поўным розквіце сілы—арлы,*
*Шмат з іх крыльля свае паламалі*
*У пякельна-гарачым баі.*

*Пры дарозе, гдзе могілкі брацкія*
*(Пачарнелі ад часу крыжы),*
*Там магутныя сілы юнацкія*
*Заляглі ад мяжы да мяжы.*

*І ня сьніцца ім пэўне трывога,*
*Што лунае над соннай зямлёй,—*
*Сяньня-ж госьці крывавага бога*
*На дабычу спадзеюцца зноў.*

*М. Базылюк*

ziamli j astavaŭsia na parohach chat. Tady adčynilisia šyroka dźviery j vočy jašče sonnyja ŭśmiachalisia da jasnaha błakitu.

Michaś vyvieŭ kania, zaproh u płuh i nakiravaŭsia ŭ pole. Čornyja skiby adna za druhoj roŭna kłalisia za im i bliščeli ŭ załatych pramieńniach uzyjšoŭšaha sonca. Žaŭranak piajaŭ jamu nad hałavoj i Michasiu chaciełasia śpiavać niejkuju radasnuju pieśniu, kataraje słovy padali jamu ŭ serca, jak čornyja, śviežyja skiby ziamli. Nia viedaŭ Michaś, što jahonaje serca śpiavaje pieśniu ziamli, jaje radasny viesnavy hymn. Bo serca Michasia było tak mocna źviazana z sercam ziamli, što kožnaja radaść, sum, tuha j rabota byli supolnymi. Kachalisia tak mocna ŭsie na śmierć i žyćcio j razam płakali j śmiajalisia...

Dumaŭ Michaś i śpiavaŭ. I śpiavała ziamla.

Sonca vyšej padyjšło j macniej pryhreła. Michaś skinuŭ siarmiažku j blisnuŭ na čornym poli biełaj kašulaj. Staŭ na chvilinu abapioršysia ab płuh i abniaŭ vačyma azałočany soncam śviet.

Darohaj, što ciahnułasia ad stancyi, peŭnie z ciahnika, niechta jšoŭ pavoli, razhladajučysia, z čamadanam u ruce. Chto-ž heta moža być, hety małady mužčyna, u miestavaj vopratcy,— z zacikaŭleńniem dumaŭ Michaś i chutka źviarnuŭ kania na ściežku kala kustoŭ alešnika, kudy ciapier nakiravaŭsia padarožny. Michaś schiliŭsia, byccam papraŭlajučy štoś kala płuha.

— Pamahaj tabie Boh, —adazvaŭsia da jaho viasioły, ale cichi hołas.

— Aleś!—uzradavaŭšysia kryknuŭ Michaś i vyciahnuŭ ruki da brata.—Prypomniŭ adnak ty svoj kraj i siamju, my ŭžo dumali, što ty da nas nikoli nia viernieššia, čuli my, što ty tam ažaniŭsia,—mo' heta praŭda?

— Dziakavać Bohu, jašče nie, i ci mnie było tam dobra ci drenna, — nikoli tam ni viarnusia, kali pryjmiecie mianie.

— Viarnuŭsia ty, dyk i dobra, maješ prava... Peŭnie pierakanaŭsia, što ciažkaje žyćcio miž čužymi j na čužoj ziamli...

Zamoŭkli na chvilinu, a koń pačaŭ niespakojna krucicca z płuham.

— Viedaješ Aleś, hety koń kuplany za tvaje hrošy, i płuh i małatarka taksama...

— Michaś, a jak matka j baćka,—ci jašče hnievajucca na mianie?

— Ci-ž nia znaješ serca baćkoŭ?—Vialikaja radaść ich siańnia čakaje... Budziem razam užo pracavać, šmat raboty nas čakaje. Nu, dyk idziom da chaty ŭžo, para na śniadańnie.

Pajšli. Michaś z kaniom i płuham, što srebram bliščeŭ u soncy, a Aleś u ciomnaj miestavaj vopratcy, z čamadam u ruce.

(*dalej budzie*).

# Творчыя й руйнуючыя дзейнікі ў жыцьці Зямлі

На сьвеце няма нічога сталага. Усё плыве, усё зьмяняецца. Адбываюцца зьмены ў сьвеце жывых істотаў: у царстве расьлінным і зьвярынным. Чалавек таксама падлягае неўмалімым законам прыроды: ён таксама зьмяняецца. Калісь, шмат мільярдаў гадоў таму назад, ня было зусім жыцьця на зямлі, але насталі спрыяючыя ўмовы й жыцьцё зрадзілася. Зусім іншыя аднак расьлі калісь расьліны, другія жылі жывёлы. Але паступова яны зьмяняліся пад уплывам розных дзейнікаў.

Зьявішчы зьмены формаў жыцьця, зьніканьне старых формаў, паяўляньне новых, называецца эвалюцыяй — разьвіцьцём.

Паняцьце эвалюцыі, зьмены, разьвіцьця зьявішчаў ёсьць найвялікшай здабычай навукі XIX стагодзьдзя. Бяз выкрыцьця законаў эвалюцыі мы ня мелі-б так багата сягоньня разьвітай навукі ўва ўсіх яе галінах. І толькі дзякуючы тэорыі эвалюцыі так разьвіліся сягоньня ўсе прыродазнаўчыя навукі.

Таксама Зямля й яе паверхня ёсьць вынікам законаў эвалюцыі. Спачатку, як мы ўжо пісалі ў № 9 „Шл. Мол.“,Зямля прадстаўляла сабою мешаніну розных газаў. Мінуў доўгі час і Зямля перайшла з газавага стану ў стан цьвёрды. Паўстаюць тады сушы, моры, вазёры, рэкі. Творацца на паверхні Зямлі пустыні, балоты, горы й даліны. Форма паверхні Зямлі не ўтварылася адразу. Патрэбна было на гэта шмат мільярдаў гадоў. Працэсы гэтыя адбываліся вельмі паволі. Працэсы фармаваньня паверхні Зямлі адбываліся ў далёкай мінуўшчыне, адбываюцца яны цяпер і будуць адбывацца ў будучай гісторыі Зямлі.

Аблічча Зямлі зьмянялася заўсёды на працягу цэлай яе гісторыі. Дзейнікі, каторыя выклікалі гэныя зьмены паверхні Зямлі, былі вельмі слабыя й дзеялі ў працягу аграмадна доўгага часу. Дзеяньне іх падсумоўваецца, а ў выніку надаецца выгляд паверхні нашай плянэты. Сягоньня, у нашых вачох, марскія хвалі б'юць аб бераг, адрываюць большыя й меншыя скальныя матарыялы, сілай вады шаруюць іх аб дно й ізноў кідаюць іх на скалы, у выніку чаго разсыпаюцца яны на мул і пясок. Хвалі заносяць на далёкае мора й там яны ападаюць на дно. Дажджавая вада, якая цячэ па паверхні Зямлі, лучыцца ў ручайкі, рэчкі й рэкі й упадае ў моры й вазёры. Гэтая вада забірае з сабой пыл, мул, пясок, жвір і драбнейшыя камені. Пры вялікім спадку вады гэтыя камені гоняцца ею, выгладжываюцца аб дно й паглыбляюць такім чынам дно самой ракі. Матарыялы гэтыя зносяцца вадою з мясцоў вышэйшых на ніжэйшыя й у канцы канцоў таксама выносяцца на мора й возера, гдзе яны й асядаюць на дно. З глыбіні Зямлі выцякаюць ручайкі, якія із глыбокіх нетраў таксама выносяць на паверхню драбнейшы матарыял і распушчаныя ў вадзе целы. Пад уплывам вільгаці, тэмпэратуры й паветра рассыпаюцца на найдрабнейшыя часткі найцьвярдзейшыя камені й скалы. Са шчытоў высокіх гораў заўсёды падаюць вялікія масы скалаў, адрываныя ад гораў праз замерзлую ваду, творачы ўнізе аграмадныя кучы грузу. Вецер вывейвае пясок і пыл і пераносіць на вялікія адлегласьці. Углыбленьні на сушы зарастаюць часта торфам, а на дне мора творацца часамі вялікія прыгоркі з астаткаў трупаў марскіх арганізмаў. Усе гэтыя дзейнікі дзеюць у адным кірунку, усе яны нівэлююць паверхню Зямлі, абніжаюць прыгоркі й засыпаюць углыбленьні матарыялам, паходзячым з вышэйшых мясцоў. Калі-б гэтыя дзейнікі дзеялі ў адным кірунку, дык з бегам часу паверхня Зямлі прадстаўляла-б сплашную раўніну. Падобна над акіянамі ўзносіліся-б плоскія сушы, але ня было-б ані гор, ані далінаў. Пасюль аднак паверхня Зямлі яшчэ не зраўнялася, існуюць горы й даліны, узвышшы й нізіны й наагул рознароднасьць краявіду й багацтва формаў паверхні, а гэта дзякуючы таму, што няроўнасьці на паверхні заўсёды аднаўляюцца. На месца зьнішчаных гораў паўстаюць новыя. Дно марское падымаецца дзякуючы тым асадам, якія награмаджваюцца там. Там, гдзе было калісь мора, робіцца суша. Дзейнікам нішчачым і нівэлюючым процістаўляюцца другія дзейнікі, г. зв дзейнікі творчыя, каторыя стала не дапушчаюць да зраўнаваньня паверхні. І так ёсьць два дзейнікі, каторыя надаюць тую ці іншую форму паверхні Зямлі, а іменна — дзейнік руйнуючы, вонкавы, і дзейнік творчы, нутраны.

Дзейнікі вонкавыя, нішчачыя, паходзяць ад сонца, бяруць адтуль нішчучую энэргію. Сонечнае цяпло выклікае рух паветра ў атмасфэры, у выніку чаго йдуць дажджы. Няроўнае абграваньне паветра прычыняецца да паўставаньня вятроў, каторыя ў свой чарод твораць марскія хвалі. Арганізмы чэрпаюць жыцьцё із сонечных касуляў.

Творчыя дзейнікі паходзяць із нутра Зямлі. І так выбухі вульканаў твораць часамі цэлыя горы або пакрываюць значную плошчу лявай; землятрасеньні, у часе якіх лопае зямная скарлупа й тады яе часьці ўзаемна перасуваюцца; урэшце таямнічыя гаратворчыя працэсы — ўсе гэтыя зьявішчы чэрпаюць сілу дзесь із глыбокіх нетраў Зямлі, дзе ёсьць награмаджаныя вялікія запасы энэргіі.

Форма паверхні Зямлі ёсьць выпадковая й залежная ад зма-



Budynak Universytetu im. Vitaŭta Vialikaha ŭ Koŭnie

# BIEŁARUSKAJA CHRONIKA

**Biełaruskaja Himnazija budzie isnavać.** Zapeŭnieńnie min. Aśviety praf. Świentosłaŭskaha prad biełaruskaj delehacyjaj, što pastanovy likvidavać Biełaruskuju Filiju Dziaržaŭnaj Himnazii im. Ad. Mickieviča ŭ Vilni niama, — vykanana. Dyrekcyja Biełaruskaj Filii atrymała z Kuratoryi Vilenskaha Školnaha Vokruhu aficyjalnaje paviedamleńnie, što I-aja klasa Biełaruskaj Filii nia budzie źlikvidavana. Pryjmo kandydataŭ u himnaziju adčyniena j vyznačany ŭstupnyja ekzaminy.

Stałasia adnak tak, jak my pradbačyli j pisali ŭ № 10 „Šl Mol.", a imienna: himnazija nia likvidujecca, ale abviestka ab pryjmie kandydataŭ u I-šuju klasu pajavilasia ŭ presie tolki za 5 dzion pierad ekzaminami. Za 5 dzion ledź zmoža tolki dajšci na viosku hazeta, a na prysłańnie zajavy ab ustupleńni ŭ himnaziju prosta nie chapaje času. Dziela taho, uvažajem, u vosieni pavinny tak-ža być naładžanyja ŭstupnyja ekzaminy, bo jnačaj tolki małaja častka kandydataŭ zmoža prystupić da ekzaminaŭ. Adnačasna źmiaščajem u hetym numary abviestku ab pryjmie j ekzaminach u Vilenskaj Biełaruskaj Himnazii z spoźnienymi viaśnianymi terminami, dumajučy, što padanyja ŭ joj infarmacyi prydaducca na vosień.

Zaklikajem usich zainteresavanych Biełarusaŭ składać padańni ab pryjmie ŭ Biełaruskuju Himnaziju až da vosieni!

**Zachady ab adčynieńni biełaruskich kulturna - aśvietnych arhanizacyjaŭ.** Za čas uradavańnia na pasadzie Vilenskaha vajavody pałk. Bacianskaha źlikvidavany amal usie biełaruskija kulturna-aśvietnyja arhanizacyi. Zahadam administracyjnaj ułady začynieny: 1) Biełaruski Instytut Haspadarki i Kultury, 2) T-va Biełaruskaje Škoły, 3) Haspadarski Źviaz, 4) Biełaruski Nacyjanalny Kamitet, 5) T-va Biełaruskaj Aśviety, 6) Biełaruski Vučycielski Sajuz i zakryty niekalki biełaruskich hazet. Ciapier, kali vajavoda Bacianski z Vilni vyjechaŭ i vajavodzki pasad zaniaŭ inšy čałaviek, biełaruskaje hramadzianstva pačało zachady dziela adčynieńnia spynienych biełaruskich kulturna-aśvietnych arhanizacyjaŭ. U hetaj spravie 6.VI adviedała novaha Vil. Vajavodu A. Marušeŭskaha delehacyja pradstaŭnikoŭ źlikvidavanych biełaruskich arhanizacyjaŭ, ale pakulšto nie atrymała nijakaha kankretnaha adkazu.

**Nie dali dazvołu na biełaruski kancert.** Biełaruski Stud. Sajuz byŭ pryhatavaŭšy na subotu 3.VI siol. kancert biełaruskaj pieśni, jaki mieŭ adbycca z učaściem viedamaha śpievaka Zabejdy-Sumickaha ŭ zali U.S.B. Ale rektar Universytetu ŭzaležniŭ svoj dazvoł na kancert u zali universyteckaj ad dazvołu dziaržaŭnaj administracyjnaj ułady. Administracyjnaja ŭłada dazvołu nie dała, dyk nia daŭ dazvołu j rektar Universytetu Dziela hetaha kancert nie adbyŭsia.

**Z dziejnaści Biełaruskaha Narodnaha Teatru ŭ Litvie.** Dramatyčnaja sekcyja Biełaruskaha Kulturna-Aśvietnaha T-va ŭ Litvie 18.V ładziła biełaruskaje teatralnaje pradstaŭleńnie ŭ Užusoli, a 28.V siol. u Davałhovičach. Stavili pjesy: „Ptuška ščaścia", „Piarestaja Krasula" j „Vyłačyŭ".

**Vysialeńnie biełaruskaha duchoŭnika.** 15.V.39 h. zahadam Navahradzkaha vajavody vysieleny z m. Stoŭpcaŭ, jak z nadhraničnaje strefy, tak i pryhraničnaje pałasy, na zaŭsiody małady biełaruski duchoŭnik a. Leŭ Haroška. Dalej a. Haroška budzie prabyvać na Paleśsi.

**Referat u Bieł. Studenckim Sajuzie.** 10.VI.39 h. stud. St. Hrynkievič pračytaŭ u Biełaruskim Studenckim Sajuzie ŭ Vilni referat na temu: „Relihija ŭ žyćci narodaŭ, unijackaja carkva, jak biełaruski nacyjanalny kaścioł". Paśla referatu adbyłasia žyvaja dyskusija.

**Referat ab dr. Fr. Skarynie ŭ Rymie.** Naš karespadent V. Kryvičanin u Italii paviedamlaje, što niadaŭna ŭ adnoj rymskaj navukovaj ustanovie adbyŭsia referat ab słaŭnym biełaruskim drukary j vučonym Dr. Fr. Skarynie. Referatam hetym zacikavilisia zahraničnyja vučonyja.

**Z vydaviectkaje nivy.** Hetymi dniami vyjšli z druku ŭ Vilni nastupnyja novyja biełaruskija knižki: 1. „*Biełaruskija (kryvickija) narodnyja pieśni j kazki*", knižka II. Vyd. J. Stankieviča. Bačyn 48. Cana 45 hr. 2. „*Hadoŭla kozaŭ*". Vyd. A. Markoŭskaha. Bačyn 15. Cana 25 hr.

Vyjšła ŭžo **druhoje vydańnie** *biełaruskich artystyčnych paštovak*, z adbitkami abrazoŭ našych malaroŭ Drazdoviča, Miranoviča j Siarhijeviča. Paštoŭki vydaŭ Biełaruski Studencki Sajuz u Vilni. Pradajucca jany pa taniejšaj canie, jak vydańnie pieršaje, bo pa 25 hr. Vypisvać možna z kožnaj biełaruskaj kniharni.

ганьня паміж сіламі вонкавымі, каторыя паходзяць ад сонца, і нутранымі, каторыя знаходзяцца ў глыбіні Зямлі.

У далейшым пастараюся высьніць Пав. Чытачом прычыны паўставаньня ўсіх гэтых зьявішчаў і вынікі іх дзейнасьці.

*К. Чэртовіч*

## ШТО ЧУВАЦЬ

— Апошнім часам у польскай прэсе шырока пісалася аб павадыру польскіх сялян **В. Вітасе.** Справа ў тым, што калі Вітас быў на эміграцыі і пражываў у Празе Чэскай, дык як Немцы занялі Чэхію да Вітаса зьвярнулася дэлегацыя тайнае нямецкае паліцыі з прапазыкай зрабіць з ім дагавор. Немцы абяцалі, што памогуць Вітасу здабыць у Польшчы ўладу, але жадалі, каб ён заключыў з Нямеччынай дагавор і даў большыя свабоды, правы некаторым нацыянальным меншасьцям у Рэчыпаспалітай. Вітас на гэта не згадзіўся і дакумэнты аб нямецкай прапазыцыі перадаў польскаму пасольству ў Празе, а сам патайком уцёк у Польшч. Факт гэты старонькі Вітаса хацелі выкарыстаць дзеля пацьверджаньня вялікага польскага патрыётызму Вітаса, а праціўнікі, каб панізіць аўторытэт Вітаса і пазбавіць уплываў Вітаса ў масах. Фактычна Вітас і ягоныя людоўцы, а такжа і польскія сацыялісты, як паказалі выбары ў самаўрад, здабываюць у Польшчы што-раз большыя ўплывы ў народзе, нашто крыва глядзіць санацыя й ОЗН, ці йнакш староньнікі сучаснага польскага ўраду.

— **У Маскве** 31.V. вялікую прамову сказаў камісар заграничных спраў СССР Молатаў. Прамовы яго чакалі многія палітыкі, бо думалі што з яе будзе відаць, **па чыей старане стане СССР,** г. зн. ці пойдзе з Нямеччынай і Італіяй, або прынамсі займе становішча нэўтральнае, чым паможа для гэных дзяржаў, - ці заключыць дагавор з Англіяй і Францыяй, сьціраваны суп роць Нямеччыны, Італіі й Японіі. Молатаў выразнага становішча СССР ня выявіў. Ён не адкінуў прапазыкі Англіі й Францыі ў справе супольнага дагавору, але адначасна заявіў, што СССР не патрабуе й ня будзе зрываць гаспадарча-гандлёвых зносінаў і дагавораў з Нямеччынай і Італіяй. Такім чынам прамова Молатава не дала нічога новага, калі ня лічыць увагі яго, што польска-савецкія адносіны апошнім часам палепшыліся. Перагаворы Англіі й Францыі з СССР далей ідуць, а дзеля прысьпяшэньня іх выехаў у Маскву спэцыяльны англійскі дэлегат В. Странг.

— Агулам у міжнароднай палітыцы за апошнія два тыдні вялікіх зьменаў ня было. Палітыкі гавораць, радзяцца, езьдзяць, а адначасна ўсе гаспадарствы ў шалёным разьмеры ўваружаюцца, падгатаўляючыся да аканчальнае разгрыўкі, каторая хіба будзе адбывацца пры гуках гарматніх, бомбавых і кулямётных стрэлаў.

— Саюз **Англіі й Францыі** ўжо да таго дайшоў, што гэтыя гаспадарствы выбралі ўжо сабе на выпадак вайны супольнага камандзера сваіх арміяў. Мае быць ім францускі ген. Гамэлен.

— **Англійскі Кароль Юры VI,** які быў у Амэрыцы й **гасьціў у прэзыдэнта Злуч. Штатаў Паўночнае Амерыкі Рузвельта,** запрасіў амэрыканскага прэзыдэнта ў госьці ў Англію. Факт гэты мае вялікае значэньне і сьведчыць аб вялікім зблізэньні Англіі й Злуч. Шт. Паўночн. Амэрыкі.

— **Латвія і эстонія надовячы падпісалі з Нямеччынай дагавор аб ненападаньні.** У гэтым часе адведаў Нямеччыну, канцлера Гітлера і іншых нямецкіх палітыкаў **рэгент Югаславіі.** Паездка яго здаецца нічога новага ў палітыку ня прынесла. Югаславія далей хоча быць нэўтральнай.

— **Румынскі** міністр заграничных спраў Гафэнку паехаў у Турэччыну, а пасьля адведае Баўгарыю. Газэты пішуць, што памагае ён Англіі здабываць уплывы на Балканах і касаваць там уплывы **Нямеччыны.**

— **Англія,** якая мае ўладу над Палестынай, выдала закон аб падзеле гэнае краіны між **Жыдамі й Арабамі.** Закон гэты не задаволіў ані Жыдоў ані Арабаў.

— У **Абісыніі,** як выявілася з прамовы аднаго з італьянскіх міністраў, ідзе далей вайна. Яшчэ ў многіх мясцох Абісынцы бароняць свае незалежнасьці, змагаючыся з італьянскай акупацыяй.

— **Чэхі,** хоць паддаліся пад нямецкі пратэктарат, аднак ніяк ня могуць пагадзіцца з Немцамі. З гэтай прычыны паўстаюць часта споры й бойкі, у каторых падаюць трупы, як з аднае, так і з другое стараны.

**Прысылайце падпіску (у год 2 зл., загр. 3 зл. 20 гр.) на „Калосьсе“ — беларускі літаратурна-навуковы й грамадзкі часапіс.**

* * *

*Нашы к радасьці дарогі*
*Палынамі зарасьлі*
*І на родныя парогі*
*Суму-смутку нанясьлі.*

*Доля горкая, ліхая,*
*Йшчэ ад мацяры грудзей*
*Нас ніяк не пакідае,*
*Крок у крок за намі йдзе.*

*Адно толькі мы шчасьлівы,*
*Што змагаемся й жывём,*
*Хоць паволі і цярпліва*
*Усё-ж да лепшага дайдзём.*

*Н. Жальба*

## Usiačyna

**Najbystrejšaj rakoj** va ŭsim śviecie ŭvažajuć raku Amazonku ŭ Amerycy, nurt jakoje pływie z skoraściu 3 metraŭ na chvilinu, h. zn. kala 11 klm. na hadzinu. Niekatoryja horskija ručajki pływuć z skoraściu 6 metraŭ na chvilinu, h. zn. bolej 22 klm. na hadzinu.

**Małako j sonca.** Navukovyja doślędy vykazali, što soniečnyja kasuli (pramieńni) padajučy na małako źmianšajuć u im kolkaść vartasnych sučastak — vitaminy C. Dziela taho lekary radziać pierachoŭvać małako ŭ ciomnych miascoch, abo ŭ ciomnych butelkach.

**Chto vynajšoŭ myła.** Myła praŭdapadobna vynajšli Kielty. U staradaŭnym Rymie ŭžyvali myła tolki bahačy. Chuścio myli ŭ specyjalnym łuzie. Kala 800 h. Araby pačali rabić myła pachučaje, kataraje paśla pryjšło ŭ Eŭropu.

**Mebli z torfu.** U časie lipskich tarhoŭ u Niamieččynie byli vystaŭleny mebli zroblenyja z tarfianych plitak. Mebli takija vielmi tannyja j lahčejšyja ad dzieraŭlanych, a plity, z jakich zroblenyja mebli, zrobleny z prasavanaha torfu, apraŭlenaha ŭ dzieraŭlanyja ramki. Mebli z torfu jošć užo ŭ pradažy.

**Balšaviki źmianšajuć vydatki na śviata 1-ha maja.** 26. IV. 1939 h. u saviecKaj hazecie „Praŭda“ byŭ apublikavany zahad Najvyšejšaje pałaty Kantroli SSSR, pavodle jakoha vydatki na arhanizacyju sioletniaha śviatkavańnia śviata pracy—1-ha maja ŭ Savietach musieli być źmienšany. I ŭžo na asnovie hetaha-ž zahadu ceły rad kiraŭnikoŭ roznych arhanizacyjaŭ byli pakaranyja za toje, što vielmi mocna padtrymlivali hrašova arhanizavańnie śviatkavańnia 1-ha maja.

**Vialikija katastrofy.** Apošnimi dniami śviet uskałychnuty byŭ viestkami ab vialikich katastrofach padvodnych łodkaŭ. I tak kala bierahoŭ Ameryki patanuła padvodnaja amerykanskaja łodka „Squolus“ z 58-ma žaŭnierami, z jakich 26 vyratavana a 32 źhinuła. Kala bierahoŭ Anhlii patanuła na mory anhielskaja łodka „Thetis“, u katoraj było 103 pasažyraŭ i žaŭnieraŭ. Z ich vyratavana tolki 4, a 99 źhinuła. U Varšavie z niavyjaśnienych pryčyn paŭstaŭ pažar hałoŭnaje stancyi na čyhuncy. Zhinuŭ 1 čałaviek i šmat raniena, straty abličajuć na miljony.



Amerykanskija bambovyja samaloty na maneŭrach

Pierasyłka apłačana ryčałtam.



# Да справы танцаў

Калі гаварыць пра танцы, дык трэба сказаць, што яны ўвайшлі ў нас у звычай, а найпрыгажэйшыя й найлепшыя для нас — гэта нашы народныя беларускія танцы. Народ наш танцамі дужа багаты. І так маем „Лявоніху,“ „Юрачку,“ „Таўкачыкі,“ „Чарот,“ „Мяцеліцу“ й шмат іншых. Сягоньняшняя беларуская „Лявоніха“ гэта дужа мастацкі танец, за тое мы яе так любім. Тое самае можна сказаць аб беларускіх танцах „Мяцеліцы,“ „Юрачку“ і іншых. Характар беларускіх танцаў заўсёды мусіць аставацца беларускім, тады ён нам лепш падабацца будзе. І свае беларускія танцы трэба нам усюды пашыраць.

Я сам люблю ня толькі танцаваць, але й паглядзець, як гэта моладзь танцуе. Шкада, бязумоўна, калі моладзь танцуе ў душных хатах і ад гэтага крэпка пацее, бо гэту справу можна лёгка іначай наладзіць і тады будзе воўк сыты й козы цэлыя. Вясной, напрыклад, можна ладзіць танцы на дварэ, пад голым небам, на чыстым, сьвежым паветры. Замест таго, каб гаспадаром дакучаць у хаце, якія часта на гэта крыва глядзяць, моршчацца на танцуючых, а пад канец дык і саўсім ня ў час ігрышчы спыняюць, трэба, каб моладзь наша раз назаўсёды з гэтым пакончыла, а прыгатавала сабе на танцы адпаведнае месца сярод вёскі, дзе пры дарожцы, выраўноўваючы пляц, на якім можна паслаць падлогу, а кругом парабіць лаўкі для публікі. Ведама, для хлапцоў гэта будзе праца й кошты, але работа іх будзе культурная. А грошы ўзяць на гэта можна зьмяншаючы выдаткі на тытун і гарэлку.

На такім месцы будзе выгода для ўсіх. Будзе свабодны й лёгкі доступ для глядзельнікаў. І тады гуляй хоць усю ноч! Ніхто цябе з гэнага месца ня згоне! А танцаваць—толькі ў пагоду, калі ясны й цёплы дзень. А здарыцца калі дождж, тады сядзі ў хаце, бо чаго там ісьці? Ды ў дождж мы й так ня выходзім з хаты. Танцы-ж пад адкрытым небам гэта здароўе й прыемнасьць!

На такім месцы не канешне, каб адбываліся толькі самыя танцы. У перарывах трэба наладжваць агульныя сьпевы беларускіх песьняў, дэклямаваць вершы, а на'т і кароткія прадстаўленьні. І гэтага паслухаць, кожнаму будзе цікава! На такія кароценькія рэчы ня трэба хіба браць дазволу, а доступ павінен быць усім бясплатны. Такая работа на вёсцы будзе асяродзьдзем ня толькі мілай разрыўкі, але й культуры. Туды ня толькі моладзь пойдзе, але і ўсе ў вёсцы, і весялей тады будзе жыць на сьвеце!

*В. Д.*

# Da ŭsich čytačoŭ i padpiščykaŭ „Šlachu Moładzi“

*Z vialikim sumam robiačy čystku siarod padpiščykaŭ „Šlachu Moładzi“ pryjšłosia nam strymać vysyłku časapisu 197 asobam, katoryja nie apłačvali akuratna padpiski j mieli ŭžo vialikija daŭhi. Dalej takža ŭsim, chto nia budzie apłačvać padpisku, vysyłku „Šlachu Moładzi“, budziem strymlivać. Dziela taho, kab nia było nijakich nieparazumleńniaŭ i pieraryvu ŭ vysyłcy, usich prosim staracca akuratna apłačvać należnaść za časapis. Padpiska na „Šlach Moładzi“ nie vialikaja, časapis kožnamu chočacca i treba mieć, dyk treba staracca za jaho płacić, tym bolš, što akuratnaja padpiska pryčynicca da pavialičeńnia časapisu, čaho choča nia tolki redakcyja, ale j usie našy čytačy.*

*VYDAVIECTVA „ŠLACHU MOŁADZI“*

# Studenckaja ekskursija ŭ Troki

28.V. sioleta T-va Pryjacielaŭ Biełarusaviedy (ani Bieł. Stud. Sajuz, jak pisałasia ŭ „Šl. Moładzi“) ładziła ekskursiju ŭ Troki dziela paznańnia astatkaŭ staradaŭnych zamčyščaŭ. Ekskursija adbyłasia vielmi ŭdała pry vialikim liku ŭčaśnikaŭ. Treba padčyrknuć duža dobruju navukovuju padhatoŭku da jaje stud stud.: T. Trafimučanki, M Smarščka i A. Šukiałojcia, katoryja davali padrobnyja vyjaśnieńni ab zamkach u Trokach. Cikava, što biełaruskaja ekskursija prypadkam spatkałasia z ekskursijaj litoŭskich vučcialoŭ z Koŭna, katoryja pryjaždžali paznać Troki j staradaŭnyja zamčyščy, jakija źjaŭlajucca vialikaj histaryčnaj biełaruska-litoŭskaj pamiatkaj.

## *Paštovaja skrynka*

**М. Г. і М. К.:** Усе патрэбныя й недаручаныя Вам друкі выслалі ўпіснымі пасылкамі.

**Хомчынаму Валі:** Вершы слабаватыя, але некаторыя паправіўшы можна будзе надрукаваць. Радзім больш працаваць над сваей творчасьцю. За добрыя пажаданьні падзяка!

**A. S—viču:** Hrošy atrymali j pieradali kniharni. Knižka vysłana, damahajciesia na pošcie.

**Bal. Hap.-Bab.:** Cana „Antalohii pavajennaje biełaruskaje paezii“ nia moža być panižanaj. Radzim kuplać, słać padpisku, u składčynu. Pryvitańnie!

**Jaz. Pit.:** Piśmo atrymali. U spravie knižak budzie ŭsio ŭparadku, tak jak Vy žadajecie. Pryvitańnie!

**Br. Žuku:** Adkaz vysłany piśmom.

**P. Ram-ku:** I novyja vieršy, na žal, słabyja j da druku nie padchodziać.

**С. С—ву.:** Усё атрымалі, дзякуем. Просьбу спаўняем.

**Ул. Ануш—віčу:** Матар'ялы да друку не падходзяць, бо слаба апрацаваныя, але здольнасьці да пяра маеце, дык трэба іх разьвіваць. Перад усім-жа трэба пазнаць добра беларускую грамату й як найбольш чытаць бел. кніжкі. За добрыя пажаданьні падзяка!

**Vasilu Stan-viču:** Vielmi ciešymsia, što Vy cikaviciesia litaraturaj. Radzim paznać dobra biel. hramatu, čytać bolš knižak dy pracavać nad saboj. Vieršy, jakija Vy prysłali, słabyja j da druku nie padchodziać. Kataloh vysyłajem.

**Я. Чорнаму:** Вершы атрымалі, у меру магчымасьці будзем друкаваць.

**С. Хмары:** Парушаная Вамі справа, бяспрэчна, мае значэньне, але рэалізацыю яе трэба адлажыць на пасьля, калі выйдзе ўжо з друку „Анталёгія паваен. бел. паэзіі.“ Бо ўсё разам цяжка будзе зрэалізаваць. Прывітаньне!

**В. Кісялянцы:** Кніжкі такой, аб якой Вы пішаце, няма, але ёсьць падобныя, напр.: „Животноводство і домашнее лечение“ — Бруж В. Э. Год выд 1923. Бач. 325, цана 8.50 зл., або Гирин — "Общая патологія животных" (учение о болезнях). Бач. 234. Год выд. 1921. Цана 5,50 зл. Выпісаць гэтыя кніжкі можаце з Бел. Кнігарні „Пагоня,“ Вільня, Завальная 1.

*„Шлях Моладзі“ друкуецца ў Беларускай Друкарні ім. Фр. Скарыны ў Вільні (Завальная вул. 1—2) коштам працы: Я. Багдановіча, Я. Найдзюка і А. Шутовіча.*

**Адрыс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Завальная вуліца № 1—2 (Wilno, Zawalna 1—2).**

„ШЛЯХ МОЛАДЗІ“ выходзіць два разы ў месяц: 5 і 25. Падпіска на год 2 зл. і 50 гр., на паўгода 1 зл. 50 гр., на 3 мес.—75 гр. Цана аднаго экзэмпляра 15 грошаў. — Заграніцу ўдвая даражэй. — Нумар кантатэкі „przekazu rozrachunkowego“ 59.

Wydawca: „Biełpres“. Drukarnia Białoruska im. Franciszka Skaryny — Wilno, ul. Zawalna 1 Redaktor: J. Najdziuk.
Выдавец: „БЕЛПРЭС“. Рэдактар: Я. НАЙДЗЮК.